Прачытай сам і перадай другому.

№ 27 (4587)

9 красавіка 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**Куды мы ідзём?**

Чытайце адказ на гэтае хвалюючае пытанне **Валерыя ФАДЗЕЕВА**, былога намесніка старшыні Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь, заслужанага юрыста
(3–4-я стар.).

**РУБРЫКА**

# ІХ ЛЁС ХВАЛЮЕ БЕЛАРУСЬ

## ЯНЫ І СОТНІ ІНШЫХ БЕЛАРУСАЎ ПАКУТУЮЦЬ У ТУРМАХ



Мікалай Статкевіч



Павел Севярынец



Ігар Лосік



Віктар Бабарыка



Эдуард Бабарыка



Марыя Калеснікава



Максім Знак



Кацярына Барысевіч



Юлія Слуцкая



Андрэй Аляксандраў



Кацярына Бахвалава (Андрэева)



Дар'я Чульцова



Уладзімір Няпомняшчых



Андрэй Пачобут



Аляксей Караткоў



Анжаліка Борыс



Сяргей Ціханоўскі



Яўген Афнагель



Максім Вінярскі



Сяргей Альшэўскі



Таццяна Гацура-Яворская



Сяргей Драздоўскі



Алесь Пушкін



Марфа Рабкова



Леанід Судаленка

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

# Што Бабарыка сказаў у судзе

## *Яму апладзіравалі, некаторыя плакалі*

Днямі ў судзе па справе топ-менеджараў «Белгазпрамбанка» дапыталі **Віктара Бабарыку**, адзінага з васьмі фігурантаў, які не прызнаў віну. Былы банкір заявіў, што ні ён, ні астатнія фігуранты справы не вінаваты.

Бабарыка ўпэўнены, што праслед палітычна матываваны, абсалютна неабгрунтаваны, і адмовіўся даваць паказанні, заявіўшы, што мэтай працэсу з'яўляецца не ўстанаўленне віны, прадстаўленне доказу віны, а абгрунтаванне яго няўдзелу ў палітычным працэсе.

Віктар Дзмітрыевіч успомніў ход перадвыбарнай кампаніі, у якой яго лічылі галоўным сапернікам Аляксандра Лукашэнкі, адзначыў, што банк шмат разоў праходзіў праверкі ўнутраныя і знешнія. Ён лічыць, што былыя калегі яго агаварылі пад ціскам у СІЗА КДБ.

Бабарыка сцвярджае, што невінаваты, ніколі не браў хабараў. Пры гэтым ён сумняваецца ў аб'ектыўнасці суда, бачыць у праследзе ціск улад на яго і на яго блізкіх.

– *Напэўна, ужо ні для кога не сакрэт, што да кожнага банка прымацаваны асобны куратар Камітэта дзяржбяспекі,* – заявіў ён, зазначыўшыся, што за 20 гадоў працы банка ні рэвізійная камісія, прызначаная акцыянерамі, ні аўдытары, ні савет дырэктараў, ні рэйтынгавыя агенцтвы, ні знешнія кантралюючыя органы не звярнулі ўвагі на тую схему, пра якую цяпер кажа абвінавачанне.

Ён распавёў, што ў студзені 2020 года ў «Белгазпрамбанку» скончылася пазачарговая праверка Нацбанка. «*Яна, чаго ўтойваць, выявіла парушэнні*», – распавёў экс-банкір, дадаўшы, што іх прызналі нязначнымі і топ-менеджменту дазволілі атрымаць узнагароджанні за папярэднія гады працы.

– *Следчыя органы ставяць пад сумнеў прафесіяналізм і цэласнасць усёй сістэмы кантролю ў банкаўскай сферы і прафесіяналізм акцыянераў (нагадаю, гэта «Газпром» і «Газпромбанк»),* – адзначыў ён.

Бабарыка заявіў, што прэтэнзіі, прад'яўленыя яму пры затрыманні ў чэрвені 2020 года, цяпер не з'яўляюцца прадметам разгляду.

– *Гэта значыць, цяперашняе абвінавачанне заснавана толькі на добраахвотнасці паказанняў, дадзеных абвінавачанымі ў СІЗА КДБ. Я разумею, што СІЗА КДБ спрыяе прасвятленню памяці і фарміраванню правільных ацэнак... Ніякай арганізаванай злачыннай групы не было. Усе дзейнічалі выключна ў інтарэсах банка і па ўласнай ініцыятыве.*

*...Мяне, вядома, моцна здзівіла, што мае былыя калегі агаварылі сябе і спрабуюць агаварыць мяне. Але я разумею, чаму гэта зроблена. Той ціск, які аказваецца ў СІЗА КДБ... Я таксама вёў тыя самыя гутаркі. Мне нават са шкадаваннем у голасе сказалі, што фізічныя катаванні забаронены... Але весці гутаркі гадзінамі, а падчас і па начах – тая яшчэ гісторыя. І гэта не проста прэсінг на цябе, гэта прэсінг на родных і блізкіх. Не лепшая гісторыя: ведаць, што твае дзеці ў СІЗА КДБ.*

Ён распавёў, што ў СІЗА КДБ зняволеныя абавязаны глядзець «Панараму», дзе ўвесь гэты час наўпрост заяўлялася пра віну фігурантаў.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Міхаіл ГРОМАЎ: «На заводзе мы як у падполлі...»

*Кіраўнік пярвічнай арганізацыі прафсаюза РЭП Мінскага трактарнага завода распавёў «Народнай Волі» пра тое, як сёння працуецца на прадпрыемстве рабочым і тым, хто іх павінен абараняць.*



**– Міхаіл, колькі гадоў вы адпрацавалі на трактарным заводзе?**

– Сямнаццаць.

**– Як рабочыя МТЗ успрынялі вынікі прэзідэнцкіх выбараў і тыя падзеі, што пачалі адбывацца пасля іх?**

– Па-рознаму. Напрыклад, я да вясны мінулага года наогул лічыў сябе апалітычным чалавекам. Як і большасць рабочых, якія кіруюцца прынцыпам: палітыкай няхай займаюцца палітыкі, а мая справа – стаяць у станка.

Але прэзідэнцкая кампанія абудзіла многіх, народ паверыў у Віктара Бабарыку, убачыў шанц на перамены.

Я 9 жніўня прагаласаваў у сталічнай школе №197 і разам з іншымі чакаў, калі члены выбарчай камісіі павесяць выніковыя пратаколы. Але мы так і не дачакаліся – праз чорны ход яны збеглі з участка. Мы тады міліцыю выклікалі. Праваахоўнікі прыехалі, зайшлі ў будынак і сказалі нам: «Акрамя вартаўніка ў будынку больш нікога няма».

На наступны дзень прыйшоў на працу з такімі перажываннямі, што нават не змог працаваць. І ўвесь цэх, у якім больш за чатырыста чалавек, зразумеў, што адбылося ў краіне.

**– А калі на заводзе распачаўся страйк?**

– Ён пачаўся пасля таго, як страйк разгарнуўся на «Беларуськаліі». Да таго ў чаце МТЗ было каля 80 чалавек, але іх станавілася ўсё больш і больш. У выніку прынялі рашэнне сабрацца і таксама вылучыць свае патрабаванні адміністрацыі прадпрыемства, бо людзі нават баяліся дадому з працы ехаць – можна было ў любы момант патрапіць пад дручкі сілавікоў, ніякіх гарантый не было.

12 жніўня адбылася сустрэча з дырэктарам завода, сабралася каля 300 рабочых, а яшчэ праз некалькі дзён на прадпрыемства прыехаў прэм'ер-міністр Раман Галоўчанка. Перад гэтым ён быў на МАЗе, мы ўжо ведалі, што там ён вырашыў размаўляць з рабочымі без прадстаўнікоў СМІ. Таму яшчэ да прыезду прэм'ера паставілі адміністрацыі ўмову: прэса павінна прысутнічаць! Але ў выніку журналістаў да Галоўчанкі так і не пусцілі. Мы самі выходзілі да іх і распавядалі пра тое, што адбываецца на заводзе. А прэм'ер размаўляў з тымі, хто застаўся.

17 жніўня вырашылі сабрацца ля прахадной, з намі таксама звязаліся хлопцы з Мінскага завода колавых цягачоў і паведамілі, што да іх павінен прыехаць Аляксандр Лукашэнка. Каб падтрымаць калег з МЗКТ, пайшлі туды маршам. Па дарозе да нас і МАЗаўцы далучыліся.

**– Чаму затым пратэстны рух рабочых не набыў сілы?**

– Страйкам узначаліў Сяргей Дылеўскі, і я не скажу, што ў яго няма лідарскіх якасцяў. Але ніхто не ведаў, як дзейнічаць. Мы думалі, што ў рабочых ёсць права на страйк у сувязі з палітычнай сітуацыяй. Аказваецца, наша заканадаўства такога не прадугледжвае.

17 жніўня дамовіліся, што пачынаем на заводзе збіраць подпісы за страйк, але людзей сталі вельмі моцна запалохваць. У выніку за страйк падпісаліся ўсяго 300–350 рабочых. Гэта, безумоўна, мізэр для такога прамысловага гіганта, на якім працуе больш за 15 тысяч чалавек.

**– А як узнікла ідэя стварэння на заводзе пярвічнай арганізацыі прафсаюза РЭП?**

– Такая думка з'явілася пасля таго, як забралі на «суткі» Сяргея Дылеўскага. У страйкаме на той момант было 28 чалавек, адміністрацыя завода ведала ўсіх пайменна. Кожны дзень людзі пакідалі страйкам па розных прычынах – кагосьці запалохвалі, нехта сам пабаяўся звальнення. У выніку ў страйкаме засталіся ўсяго два чалавекі. Калі Дылеўскага пасадзілі, усе астатнія проста разбегліся хто куды.

Затым да мяне падышоў адзін завадчанін не з нашага цэха, які прапанаваў дзейнічаць праз прафсаюз.

Пачалі высвятляць, якія ў нас ёсць незалежныя прафсаюзы і ці ёсць яны наогул. У выніку спыніліся на прафсаюзе РЭП. Пагутарылі з Ігарам Комлікам, які з'яўляецца адным з лідараў. Там, безумоўна, былі рады, што да іх моладзь прыйшла, мы ўступілі ў гэтую арганізацыю.

**– Колькі сябраў зараз налічвае ваша пярвічная арганізацыя?**

– Каля 100 чалавек.

**– Вам прадаставілі памяшканне?**

– Не. З адміністрацыі МТЗ прыйшоў адказ: маўляў, памяшканне не дадзім, бо вас наогул не існуе.

**– Што значыць «не існуе»?**

– Справа ў тым, што наша «пярвічка» пакуль афіцыйна не зарэгістравана. Для гэтага трэба мець юрыдычны адрас, а ў нас яго няма. Так выбудавана заканадаўства, хаця ў той жа Расіі рэгістрацыя прафсаюзнай «пярвічкі» адбываецца паводле паведамляльнага прынцыпу. Там не патрэбны ніякі юрыдычны адрас для таго, каб можна было ўступаць у перамовы з адміністрацыяй прадпрыемства. Нават трох чалавек дастаткова, каб была створана прафсаюзная група і можна было весці дыялог з кіраўніцтвам завода па праблемных пытаннях.

Таму сітуацыя атрымліваецца некалькі абсурдная. Наша пярвічная арганізацыя прынята на ўлік у прафсаюзе РЭП – арганізацыі, якая афіцыйна зарэгістравана, але на заводзе нас не прызнаюць, бо нам яшчэ трэба зарэгістравацца.

**– Адным словам, на сённяшні дзень вы знаходзіцеся ў нейкім паўпадпольным стане...**

– Як у падполлі! Мы нічым не адрозніваемся ад страйкамаў «Беларуськалія» ці «Гродна-Азота». Яны быццам і ёсць, але ў той жа час афіцыйна іх таксама не існуе.

**– Якія мэты і задачы ставіць ваша пярвічная арганізацыя?**

– Асноўная задача – гэта прыцягненне новых сябраў. Чым нас больш, тым мы мацнейшыя і тым больш можам уплываць на адміністрацыю завода.

**– Рэальна вы можаце абараніць рабочага, які звернецца да вас па дапамогу?**

– У сённяшнім становішчы, калі законы не працуюць, не можам. Гэта горкая, але праўда. Калі захочуць звольніць, то звольняць, як гэта атрымалася са мной. А калі дружна выступім у абарону кагосьці, то проста «засвецім» людзей, а выніку ўсё роўна не будзе. Калі б у «пярвічцы» была хаця б тысяча чалавек, то, магчыма, да такой колькасці і прыслухаліся б.

**– А за што вас звольнілі?**

– 26 кастрычніка мінулага года мы збіраліся правесці сход рабочых, і ў той жа дзень мне паведамілі, што ў канцы змены я павінен падысці да начальніка цэха, які і пазнаёміў мяне з дакументамі наконт майго звальнення. Маўляў, адсутнічаў на працоўным месцы.

Хацелі звольніць у той жа дзень, але не атрымалася, бо не было нават дакладной начальніка. Звольнілі крыху пазней, хаця са шматлікімі парушэннямі. Нават абходны ліст не далі падпісаць. Я, натуральна, падаў у суд, зараз будзе разгледжана апеляцыя. Але шанцы аднавіцца на працы практычна нулявыя.

**– Знайшлі сабе новае месца працы?**

– Пакуль засяродзіўся на прафсаюзнай рабоце, але ёсць падпрацоўкі, бо я добры сантэхнік і зваршчык. А з такімі прафесіямі без працы і капейкі ніколі не застанешся.

**– Вы падтрымліваеце нейкія стасункі з незалежнымі прафсаюзамі іншых прадпрыемстваў?**

– Безумоўна. Пастаянна на сувязі з прадстаўнікамі «Беларуськалія», «Гродна-Азота», БелАЗа, «Нафтана». На БелАЗе, Мінскім маторным заводзе і МАЗе таксама ёсць прадстаўнікі прафсаюза РЭП, мы абменьваемся вопытам і напрацоўкамі.

Мы прааналізавалі сітуацыю і бачым, што зараз на некаторых заводах кадравы голад. На МАЗе, здаецца, 400 работнікаў неабходна, на МТЗ – 140. Высакакласных спецыялістаў, якія выказалі сваю грамадзянскую пазіцыю, звольнілі, а зараз дзіркі неабходна закрываць. Хаця заробкі прапаноўваюць ужо меншыя, чым былі ў мінулым годзе. Таму зарплаты ў людзей зніжаюцца, а класны зваршчык, зразумела, за 700 рублёў на завод працаваць не пойдзе.

**– А якія цяпер заробкі на трактарным заводзе?**

– Розныя. Адметна, што іх павысілі ў тых цэхах і падраздзяленнях, дзе рабочыя бунтавалі.

**– А як рабочыя МТЗ ставяцца да страйку?**

– Так, як і на іншых прадпрыемствах: выступаюць толькі тады, калі моцна прыцісне. Людзей апошнім часам запалохалі, і яны будуць страйкаваць толькі ў выпадку, калі ўжо не будзе чаго есці.

**Алесь СІВЫ.**

*Фота аўтара.*

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Што Бабарыка сказаў у судзе

## *Яму апладзіравалі, некаторыя плакалі*

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-стар.)*

*– Складана выстаяць ад бяссілля, калі ты чуеш, у якім аб'ёме і на якім узроўні прадвызначана твая віна. Гэта спрыяе жаданню пайсці на кампраміс.*

Бабарыка не выключыў, што яго рашэнне пачаць выбарчую кампанію вельмі істотна паўплывала на лёсы цяперашніх абвінавачаных.

*– У кагосьці рухнула кар'ера, у кагосьці – бізнес, які ён будаваў многія-многія гады. Нейкія абгрунтаваныя настроі супраць мяне маглі быць. Калі паглядзець на першапачатковыя прызнальныя паказанні, можна ўбачыць, што інфармацыя там праўдзівая.*

Абвінавачаны распавёў, што банк фактычна рабіў стартапы: укладваў грошы ў кампаніі і пасля здзяйсняў «выхад».

*– Асноўная задача мяне як кіраўніка заключалася ў прыняцці рашэнняў на падставе эканамічнай абгрунтаванасці і адпаведнасці заканадаўству. Банк быў зацікаўлены, каб стартап працаваў. Я не ведаю, чаму людзі, якія сядзяць у гэтай клетцы, адмаўляюцца ад свайго фантастычнага інтэлектуальнага патэнцыялу, які яны альбо моўчкі, альбо іншым чынам ўкладвалі ў развіццё гэтага стартапа.*

Экс-банкір некалькі разоў падкрэсліў, што аднаасобна ў банку не мог нічога вырашаць.

*– Механізм прыняцця рашэнняў не прадугледжвае ні прыняцця рашэнняў адным чалавекам, ні прыняцця рашэнняў эканамічна немэтазгодных.*

Ён падкрэсліў, што ў справе няма доказаў яго дзеянняў супраць інтарэсаў банка і атрымання за гэта якога-небудзь узнагароджання.



Адзіны пункт, які можа з'яўляцца падставай для з'яўлення пачуцця віны ў людзей, – канфлікт інтарэсаў, дзеянне супраць інтарэсаў арганізацыі, гэта значыць банка, – адзначыў Бабарыка, патлумачыўшы, што ў банку прымалі ўсе патрэбныя меры, каб канфлікту інтарэсаў пазбегнуць.

Віктар Бабарыка ўпэўнены, што і дзейнасць кампаній, і наступны продаж доляў у стартапах, exit, былі цалкам законнымі.

*– Я вельмі шчыра сумняваюся ў аб'ектыўнасці судовага разбору. Я выдатна разумею той прэсінг, які працягваецца нават цяпер. Вы чулі заявы спадара Лукашэнкі, спадара Шведа пра ўжо ўстаноўленую віну. Пакуль на гэтым этапе я не буду адказваць на пытанні і даваць якія-небудзь тлумачэнні. Перакананы, што тое, у чым абвінавачваюць людзей і ў чым яны прызнаюцца, – яны не вінаватыя,* – заявіў Бабарыка.

*– Я доўга не мог адказаць на пытанне, ці правільна я зрабіў 12 мая* (калі заявіў аб жаданні вылучыць сваю кандыдатуру на выбарах). *Былі наступствы для маёй справы, якой аддаў 25 гадоў, для людзей, для сына, для сяброў. Але я ведаю адно. Матыў быў толькі адзін: я хачу жыць у краіне, дзе пануе закон.*

У зале пачалі гучна пляскаць, некаторыя плакалі. Суддзя прыгразіў выдаліць усіх з залы.

Далей Бабарыка адмовіўся адказваць на пытанні.

Раней сёння заканчвалі допыт абвінавачанага Віктара Кабяка, заснавальніка кампаніі «Актыўлізінг». На пытанне аб тым, ці меліся прававыя падставы для пералічэння дывідэндаў кампаніяй «Актыўлізінг» на карысць «Белгазпрамбанка», ён адказаў так:

*– Фармальныя падставы для гэтага былі. Але па сутнасці гэта няправільнае рашэнне. Яно кваліфікавалася карупцыйным аддзелам Рэспублікі Беларусь. Гэта я ўсвядоміў пасля.*

### Справа Бабарыкі і топ-менеджараў «Белгазпрамбанка»

Працэс па «справе «Белгазпрамбанка», па якой праходзіць і яго экс-кіраўнік Віктар Бабарыка, які мог стаць галоўным супернікам Аляксандра Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах у жніўні мінулага года, пачаўся 17 лютага. Справу разглядае Вярхоўны суд у будынку суда Маскоўскага раёна.

Ужо на некалькі пасяджэнняў прэс-служба Вярхоўнага суда адмовілася акрэдытаваць журналістаў найбуйнейшых незалежных медыя. Афіцыйная прычына – прафілактыка каранавіруса, дэфіцыт месцаў, допуск дастатковай колькасці СМІ для таго, каб заявіць пра забеспячэнне галоснасці.

Па «справе «Белгазпрамбанка» праходзяць восем фігурантаў. **Віктар Бабарыка** абвінавачваецца ў «адмыванні сродкаў, атрыманых злачынным шляхам» (ч.2 арт.235 КК, да сямі гадоў пазбаўлення волі) і «атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры» (ч.3 арт.430 КК, да 15 гадоў пазбаўлення волі). **Аляксей Задойка** (былы першы намеснік старшыні праўлення «Белгазпрамбанка»), **Кірыл Бадзей** (в.а. старшыні праўлення «Белгазпрамбанка» пасля сыходу Бабарыкі), **Сяргей Шабан** (намеснік старшыні праўлення «Белгазпрамбанка»), **Дзмітрый Кузьміч** (намеснік старшыні праўлення банка), **Аляксандр Ільясюк** (намеснік старшыні праўлення банка), **Сяргей Дабралёт** (былы намеснік старшыні праўлення банка) абвінавачваюцца ў атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры. **Віктар Кабяк** (заснавальнік кампаніі «Актыўлізінг») абвінавачваецца ў дачы хабару паўторна альбо ў буйным памеры.

*(«Новы час»)*

ВІНШУЕМ!

# З юбілеем, Лявон Сцяпанавіч!

## *Сёння вядомаму аўтару «Народнай Волі» Лявону Целешу спаўняецца 80 гадоў.*

Крыжаванкі і артыкулы Лявона Сцяпанавіча рэгулярна друкуюцца на старонках нашага выдання ўжо доўгія гады. Гэта чалавек, які заўсёды дадае пазітыўнага настрою і аптымізму, ніколі не сумуе і не сядзіць без справы.

*«Сваім актыўным жыццём даю прыклад іншым пенсіянерам, што і на адпачынку нельга сядзець склаўшы рукі. Такое маё крэда»,* – сказаў неяк спадар Лявон.

Доўгіх гадоў жыцця, Лявон Сцяпанавіч!



ПРОШУ СЛОВА!

Валерий ФАДЕЕВ, бывший заместитель председателя Конституционного суда, заслуженный юрист

# КУДА МЫ ИДЁМ?

## Немного истории

Мы сейчас обсуждаем возможные изменения в Конституцию страны (либо принятие новой Конституции). Эта тема мне очень близка, поскольку в свое время я участвовал в разработке Конституции Беларуси в редакции 1994 года, а затем в составе первого созыва Конституционного Суда пришлось осуществлять контроль за конституционностью нормативных актов. Помнится, после избрания в состав КС я написал стихи, которые заканчивались так:

*Теперь уже назад ни шагу,*
*Доверие я должен оправдать.*
*О, дай мне, Бог, достоинство, отвагу*
*За нашу Конституцию стоять!*

Честно сказать, эти слова тогда мне казались просто удачной творческой находкой, я и предполагать не мог, что нам, судьям Конституционного Суда, действительно нужны будут и отвага, и мужество, чтобы с честью исполнить свой долг. Не буду вдаваться в подробности, просто хочу напомнить, что с самого начала деятельности на посту президента Республики Беларусь А.Лукашенко у нас с ним не сложились отношения и, нужно сказать, не по нашей вине; просто мы признали неконституционными полностью либо частично целый ряд его указов (по подсчетам за 1994–1996 годы – 17 актов). Он на нас обижался, критиковал, даже издал акт о том, что госорганы не должны исполнять наши решения. На нас шли страшные «накаты», использовались всякие домыслы и слухи. Однажды даже было заявлено, что трое судей Конституционного суда (они все ранее имели отношение к органам правопорядка) готовят заговор с целью свержения власти. Мне (я тогда уже был заместителем председателя КС) пришлось быть в одном высоком кабинете, и я поручился за своих коллег и попросил, если есть подтверждение этого факта, предоставить материалы нам, поскольку у нас есть Кодекс чести судьи Конституционного Суда и мы сами в первую очередь с этим будем разбираться. Нужно сказать, что прошла четверть века, а никаких материалов так и нет!

Однажды было объявлено, что президент якобы подписал указ об освобождении от должности председателя Конституционного Суда В.Тихини. Мне и еще двум судьям, которых я взял с собой, довелось встретиться с тогдашним главой Администрации президента Л.Синициным, и мы ему популярно объяснили, что председателя КС избрал Верховный Совет и только он может его освободить от должности. На вопрос г-на Синицина, что делать, я ответил, что указ нужно отменять. Не знаю, как там вышло с указом (по-моему, ему просто не дали ходу), но в качестве отступного Л.Синицин спросил: «А может, мы хотя бы выговор объявим?» Пришлось пояснить, что и этого сделать нельзя. Но главное, что наказать-то председателя Конституционного Суда хотели за надлежащее исполнение обязанностей!

Сегодня кое-кто, в том числе один мой бывший коллега по КС, утверждает, что Конституционный Суд, мол, встал на сторону Верховного Совета и поэтому был необъективен по отношению к президенту, то есть встал в оппозицию! Не хочу спорить, просто рекомендую посмотреть наши заключения за 1994–1996 годы, и тогда будет видно, что мы рассмотрели на предмет конституционности примерно поровну актов президента и актов Верховного Совета.

Если мы посмотрим соцопросы за те годы, то увидим, что Конституционный Суд по уровню доверия к нему занимал всегда высшие строчки. Сегодня он принимает гораздо больше решений, чем мы в свое время, потому что на него возложили обязательный предварительный контроль законов перед подписанием их Президентом (кстати, эта обязанность на Конституционный Суд была возложена не Конституцией, а декретом президента, что само по себе вызывает вопросы). Правда, однажды я задал на семинаре председателю Конституционного Суда вопрос, на который не получил ответа: а как поступит суд в случае, если он в порядке предварительного контроля признает закон конституционным, а затем кто-то поставит вопрос о том, что всё же есть нормы, вызывающие сомнения в его конституционности? Еще один вопрос, на который мне ответил не председатель Конституционного Суда, а почему-то начальник юридического управления Палаты представителей, хотя я к ней не обращался (по-моему, она




теперь в составе КС): почему осуществляется предварительный контроль законов, а актов президента, особенно декретов, не осуществляется? Мне пояснили, в частности, что декреты, мол, представляются в парламент. Эти декреты сохраняют силу, если они не отменены большинством не менее двух третей голосов от полного состава каждой из палат. Но, во-первых, это не равноценные процедуры –предварительный контроль Конституционного Суда и «последующий» парламента; во-вторых, за всё время после 1996 года президент издал десятки временных декретов, среди которых были явно вызывающие вопросы в соотношении с Конституцией и законами (например, «о тунеядцах», о контрактной системе найма на работу, от 15.12.2014 №5 «Об усилении требований к руководящим кадрам и работникам организаций»), и ни один из них не был отклонен парламентом! Кроме того, согласно Конституции, президент может издавать декреты в двух случаях: 1) когда это право ему делегировано парламентом и 2) в силу особой необходимости. Так вот, насколько мне известно, парламент ни разу не делегировал президенту такое право, а десятки изданных им временных Декретов приняты «в силу особой необходимости», например, в 2017 году аж восемь. В чем всегда состояла особая необходимость, можно только догадываться!

Но давайте сегодня спросим граждан: знают ли они о Конституционном Суде и его работе и какой рейтинг ему выставят? Нас упрекали (и один бывший коллега в своем интервью отметил это как недостаток), что мы имели право возбуждать дела по своей инициативе и что мы этим злоупотребляли. Но если мы посмотрим заключения по таким делам, то увидим: они возбуждались всегда правильно, и принятые по ним заключения доказывают, что мы действительно смогли увидеть в рассмотренных актах несоответствие их Конституции! И главное, что нужно иметь в виду: обращаться в Конституционный Суд с предложением о проверке конституционности актов могли семь госорганов, а граждане такого права не имели. Вот мы и заполняли эту брешь, многие из дел возбуждались как раз в связи с тем, что граждане нас информировали о проблемах.

## Все конституционно?

Сегодня же граждане по-прежнему не имеют права обращения в Конституционный Суд; им рекомендуют обращаться в те госорганы, которые «вхожи» в КС (сегодня их осталось пять, так как упразднен Высший хозяйственный суд, который указан в Конституции, но мы «подправили», в сущности, в этой части Конституцию без всяких там референдумов), но эти госорганы занимают круговую оборону и не хотят конфликтовать друг с другом. Поэтому отвечают гражданам, что *«не находят оснований»* для обращения в Конституционный Суд! Приехали, как говорится! В своем послании о состоянии конституционной законности в 2020 году КС отметил: *«В 2020 году в Конституционный Суд поступили 43 обращения, содержащие, по мнению направивших их граждан и организаций, информацию о наличии в нормативных правовых актах пробелов, коллизий и правовой неопределенности»*. Однако КС приходит к выводу, что *«по результатам изучения содержания обращений и приложенных к ним материалов, анализа соответствующего правового регулирования и практики правоприменения, а также с учетом мнений государственных органов и иных организаций, изложенных в ответах на запросы Конституционного Суда, пробелов, коллизий и правовой неопределенности, имеющих конституционно-правовое значение, в законодательстве не выявлено, что свидетельствует о достигнутом определенном конституционно-качественном уровне национального законодательства»*. Но мы-то хорошо знаем, что это далеко не так! И еще один пассаж из этого послания: *«В 2020 году уполномоченные органы с предложениями о проверке конституционности нормативных правовых актов в Конституционный Суд не обращались, что свидетельствует о достигнутом на конституционной основе качественном правовом регулировании общественных отношений, надлежащем взаимодействии государственных органов, участвующих в законотворческом процессе, при неукоснительном соблюдении ими конституционных принципов и норм»*. Ура!? А ведь не зря уже из уст некоторых лиц, в том числе приближенных к власти, звучат мнения, что ничего менять не нужно. Видимо, их подвигло на это в том числе это послание КС!

Мы можем внести изменения в Конституцию, можем принять новую. И нам обещают, что многое изменится, но… Вот сегодня многие предлагают – и, возможно, это было бы правильно на этом этапе – вернуться к Конституции-94, а затем спокойно работать над новой редакцией. По моему мнению и мнению многих экспертов, Конституция-1994 была в целом неплохим документом, хотя кое-что можно было бы сделать и лучше. Но там были в соответствии с международными нормами гарантированы права граждан, обеспечен принцип разделения властей, предусмотрены сдержки и противовесы (ст.6), сменяемость власти и пр. Тем не менее мы, как уже отмечалось, признали неконституционными 17 актов президента! Так только ли в Конституции дело? Пожалуй, самым вопиющим фактом является то, что, несмотря на заключение Конституционного Суда о том, что решения референдума 1996 года по новой редакции Конституции не могут носить обязательный (а лишь рекомендательный) характер, президентским указом им была придана обязательная сила. Но, согласно ст.129 Конституции-1994, *«заключения Конституционного Суда являются окончательными, обжалованию и опротестованию не подлежат»!* Таким образом, мы ввели новую редакцию Конституции путем нарушения прежней редакции. Кстати, новый состав КС заключением от 15 апреля 1997 года отменил то наше заключение, на что, по-моему, у него не было оснований, хотя в тексте заключения от 15 апреля указано немало «оснований» (абсолютно спорных) для этого и главный вывод поражает: *«В связи с тем, что рассмотрение вопроса о конституционности Постановления Верховного Совета Республики Беларусь «О проведении республиканского референдума в Республике Беларусь и мерах по его обеспечению» не входило в компетенцию Конституционного Суда и не основывалось на Конституции и законах Республики Беларусь, то в соответствии со статьей 7 Конституции, статьей 49 Закона «О Конституционном Суде Республики Беларусь» Заключение Конституционного Суда от 4 ноября 1996 года не имеет юридической силы и подлежит отмене, а производство по делу – прекращению»*. А ведь в принятии этого решения участвовали четверо наших бывших коллег из первого состава КС! Таким образом Конституционный Суд дополнительно «легитимировал» тот референдум! Вспоминаю, что после нашего заключения в отношении референдума мы встречались с профессором из США, крупным специалистом в области конституционного права, и он заявил, что наше заключение войдет в анналы! Но, как видим, при желании можно многое оправдать либо дезавуировать.

Конституция в действующей ныне редакции почти дословно повторила нормы о правах и свободах граждан. В ней есть ст.26, согласно которой никто не может быть признан виновным в преступлении, если его вина не доказана и установлена вступившим в законную силу приговором суда. Конституция гарантирует свободу мнений, убеждений и их свободное выражение (ст.33). Ст.25 содержит запрет на пытки, жестокое, бесчеловечное либо унижающее достоинство обращение и т.д.

А что мы имеем на практике?

Председатель Центризбиркома при регистрации кандидатов в президенты фактически называет виновным в совершении целого ряда серьезных преступлений одного из кандидатов, в отношении которого даже не было завершено следствие. Сегодня увольняют с должностей выдающихся руководителей медицинских учреждений, высших учебных заведений за высказанное мнение либо «непринятие мер» к тем подчиненным, студентам и др., которые такое мнение высказали!

А меры, принимаемые в отношении задержанных участников мирных протестов! Ставшие достоянием общественности кадры жестоких задержаний, сцен из автозаков просто шокируют. Как это согласуется со ст.25 Конституции? И самое обидное, что это делают не какие-то оккупанты, а наши в основном молодые ребята, выросшие в нашей стране, здесь учившиеся либо служившие, которые содержатся за счет уплачиваемых нами налогов! То есть одни граждане Беларуси так поступают с другими гражданами, большинство из которых имеет гораздо большие заслуги перед страной, нежели те, кто их «прессует»! А как это соотносится со ст.2 Закона «Об органах внутренних дел Республики Беларусь», в которой на первом месте среди задач этих органов названа следующая: *«защита жизни, здоровья, чести, достоинства, прав, свобод и законных интересов граждан Республики Беларусь, иностранных граждан и лиц без гражданства (далее, если не указано иное, – граждане) от преступных и иных противоправных посягательств, обеспечение их личной и имущественной безопасности, защита прав и законных интересов организаций от преступных и иных противоправных посягательств в соответствии с компетенцией органов внутренних дел»*. И только потом указаны и другие задачи, в том числе защита интересов государства, то есть, и здесь права и свободы граждан стоят выше других интересов, и это соответствует части первой ст.2 Конституции, согласно которой *«человек является высшей ценностью общества и государства»*. Так почему мы так поступаем с самым ценным, что есть в нашей стране, – нашими гражданами? Я далек от мысли все обобщать и не могу утверждать, что все наши правоохранители так поступают, нарушая Конституцию и законы. Я знаю, что в органах внутренних дел служит немало честных и порядочных людей, верных долгу и закону. Недавно к нам приходил наш участковый милиционер, и моя жена, бывший прокурор и преподаватель Академии МВД, после беседы с ним заявила, что это настоящий служитель закона. Но тем более обидно, что наряду с такими есть те, кто забывает о правах других людей, слепо выполняет незаконные приказы и использует данную ему власть для подавления тех, кто имеет собственное мнение и пытается его донести до властей предержащих!

Что мы сделали с национальным театром, известным во всем мире?! Направо и налево раздаем «сутки» и штрафы известным ученым, медикам, спортсменам, журналистам, людям, являющимся гордостью нашей страны, увольняем и лишаем содержания известных дипломатов! Недавно смотрел передачу о Белле Ахмадулиной, которая в свое время вступилась за академика Сахарова. Так вот даже в то идеологически сложное время ее ни партия, ни органы госбезопасности не посмели тронуть. А что делается сегодня в нашей стране?

А как расценивать сказанное недавно высоким должностным лицом на коллегии Генпрокуратуры о том, что нам сейчас не до соблюдения законов?! Напомню содержание п.1 ст.4 Закона РБ «О прокуратуре Республики Беларусь»: *«Задачами прокуратуры являются обеспечение верховенства права, законности и правопорядка, защита прав и законных интересов граждан и организаций, а также общественных и государственных интересов»*. Но если не до законов, так что тогда должна делать прокуратура? Либо не до законов одним, а других будем по этим законам преследовать? Но тогда это не правовое государство! Характерно, что из полного зала прокурорских работников никто не возразил по поводу такой сентенции! В связи с этим вспоминаю, как еще в советское время моя жена, помощник прокурора одного из районов Минска, поставила на место (жестко ему возразив!) заведующего отделом административных органов Минского обкома КПБ. Ау, сегодня где вы, настоящие прокуроры?

На Всебелорусском народном собрании лидер одного из старейших бизнес-союзов сказала вполне правильно и объективно о положении бизнеса, о проблемах, в том числе излишнем тотальном контроле, внесла конкретные предложения, а в ответ получила отповедь: будто предприниматели все «редиски», только и думают, как набить карман, эксплуатируют работников, и к ним нужно принимать меры! Вот вам и диалог! Значит, мы за плюрализм, но только если «всё по-моему»? Тогда это по-другому называется!

## Что сочиним?

Так есть ли гарантия того, что мы примем новую редакцию Конституции в этих условиях и всё станет хорошо? Думаю, что, пока мы не добьемся того, чтобы все случаи перечисленных нарушений были расследованы, им дана надлежащая оценка, а виновные привлечены к ответственности, того, чтобы все действительно были равны перед законом (ст.22 Конституции), мы не сможем обеспечить верховенство Конституции в любой редакции.

*(Окончание на 4-й стр.)*

Народная Воля

http://www.nv-online.info

9 КРАСАВІКА 2021 г.

ЗВАНЫ ГОСТЬ

## Актриса Наталья КОЧЕТКОВА:

# «Каждый сделал свой выбор. Что ж вы ядом исходите?»

«Свободные купаловцы» не оформлены в труппу юридически, но как творческий коллектив единомышленников существуют и действуют. Да, с трудностями физическими, с перегрузками эмоциональными. Тем не менее актеры работают, их спектакли и клипы, выложенные на ютубе, ждут и смотрят десятки тысяч зрителей. Именно так – десятки тысяч. Например, первую часть нового видеоспектакля «Страх» по пьесе Б.Брехта в постановке Николая Пинигина посмотрело около 50.000 человек. Грандиозная цифра просмотров! Грандиозная и обнадеживающая.

Поэтому с одной из старейших актрис труппы бывшего Купаловского театра, заслуженной артисткой **Натальей КОЧЕТКОВОЙ** мы встречались в приподнятом настроении. Еще один спектакль «сдан», готовится к выходу следующий – это сюрприз. И на сердце, конечно, уже меньше печали.

**– Понимаю, как трудно пускаться в эти воспоминания снова и снова, но все-таки спрошу: как лично вы принимали решение о том, чтобы уйти из театра? Вы ведь человек старшего поколения, проработали в Купаловском 50 лет. В этом возрасте уже, как говорят, и стены держат.**

– Когда в конце августа закончился отпуск и я пришла в театр и узнала о событиях в Минске и о том, что бесцеремонно уволен наш директор Павел Павлович Латушко, у меня и мысли не было оставаться. Но потом, признаюсь, в душе начались колебания… Мне вдруг стало страшно – ведь у нас такой коллектив, такой театр! Но на собрании выступил Николай Николаевич Пинигин. Он сказал: «Я ухожу. Но это не значит, что вы должны идти за мной. Каждый решает сам за себя». Ну, здесь уж двух мнений быть не могло: без Пинигина оставаться в театре было бессмысленно. Он наш лучший режиссер. Короче, я написала заявление. И мне стало так легко, так на душе чисто… Больше никакие сомнения и сожаления меня не терзали.



**– Не зря говорят, что счастье – это чистая совесть.**

– Другого пути быть не могло.

**– А какие аргументы выдвигали те актеры, которые остались?**

– Одна актриса сильно упирала на то, что мы некультурно вели себя с министром, что не выслушали его. Это еще больше убедило меня в правильности моего решения: люди даже не поняли, что дело совсем не в министре, в каком-то чиновнике…

**– Но антагонизма друг к другу вы тогда еще не испытывали?**

– Мы и сейчас, в принципе, его не испытываем. А вот оставшиеся, наши бывшие коллеги, ведут себя, я считаю, непорядочно. С нашей стороны в их адрес не прозвучало ни одного бранного слова. Каждый сделал свой выбор. Что ж вы ядом исходите? У меня это вызывает чувство отвращения.

**– Там теперь главный рупор «праведного гнева» актриса Ольга Нефедова.**

– И не только. Давали интервью и другие. Причем уничижающие интервью: мол, хотите играть в подворотне – пожалуйста. Ну, а про Олю… Столько лет вместе работали, и я даже не предполагала, сколько в человеке таится высокомерия.

**– Интересно, на какой творческий процесс они рассчитывают? Кто будет ставить им новые спектакли?**

– В том-то и дело. Меня поразило, как Овсянников на собрании с Лукашенко просил: «Нам бы парочку режиссеров». А Лукашенко отвечал в том смысле, что давайте ищите сами, из своих. То есть ясно, что человек ничего не понимает в театральном деле. Да и кто будет ставить на роли глубоко возрастных актеров?.. Так что сейчас они, по сути, просто обслуживают власть, и когда-нибудь им будет за это стыдно. Я все-таки верю…

**– И я верю, что ход истории не остановить. Но жертвы колоссальные – шутка ли, потерять Купаловский театр! Хорошо, что вы находите возможность работать.**

– Мы вот только-только вышли из новых съемок, но фильм (а снимали именно фильм) сейчас на монтажном столе. Какой – узнаете позже, всему свое время.

**– Как настроение у Николая Пинигина?**

– Он молодец. С верой в будущее и с большими планами – это важно.

**– Планы связаны со «Свободными купаловцами»?**

– Ну, конечно.

**– Вы ловили себя на мысли, что просто хочется зайти в здание театра?**

– Недавно ехала с мужем мимо на машине. Он спрашивает: «Ёкает сердце?» Нет! Совсем не ёкает. Самой удивительно. Когда уходила из театра, я даже в гримерку свою не зашла, не забрала вещи. Не могла, всё вдруг стало чужим. А теперь еще и затоптанное. Пришел Лукашенко – и в уличной обуви на сцену! Что, места мало? Сцена – место святое.

**– Ну, а он по-хозяйски… Наверное, уже свыкся с ролью собственника. Наталья Григорьевна, когда я готовилась к встрече, хотела побольше прочитать о вашей семье. Ведь ваш отец – Григорий Алексеевич Кочетков, народный артист Узбекской ССР и народный артист БССР – служил после войны в нашем Русском – театре имени Горького. И ваша мама Мария Кузьменко там служила. Но в интернете о них почти ничего нет – эпоха была другая.**

– Папа, к сожалению, довольно рано ушел, я еще и дипломированной артисткой не стала, только училась. Сердце… Театральная судьба помотала его по стране. Во время войны работал в Ташкенте, а после – в Москве в театре Советской армии. Но они уехали из столицы. Я до правды не смогла докопаться, но мама рассказывала (хотя мне трудно в это поверить сейчас), что на отъезде настоял именно папа, который говорил ей: «Я здесь, в Москве, умру». Что там произошло? Он боялся политических репрессий? Семейная тайна…

**– Сначала вы были слишком молоды, а потом мама, скорее всего, не хотела вспоминать. Знакомая ситуация.**

– Мама рассказывала, что Григорий Кочетков был так популярен, что поклонницы отрывали пуговицы от его пальто и пиджаков. Это были 1950-е годы. Он был очень обаятельный, сын помещика, семью которого разорила революция. Его родители всё бросили и убежали в Москву, чтобы затеряться. Жили очень трудно. Моя бабушка, например, умирала, лежа на огромном сундуке, в котором после ее смерти нашли кучу обмылков – вот что делает с человеком нищета. Конечно, папа всю жизнь скрывал свое происхождение.

**– Папа успел увидеть вас в спектаклях?**

– Только в студенческих и студийных, на профессиональных подмостках, к сожалению, нет. Но он, конечно, интересовался моей учебой, делал замечания: «Не пережимай, не старайся ты так сильно!» Сам-то он на сцене был очень органичный.

**– А вас после диплома сразу пригласили в Купаловский театр?**

– Да, но у меня был выбор: приглашали еще в областной театр имени Якуба Коласа в Витебск. Но… я не полюбила этот северный город, мне он почему-то всегда казался слишком ветреным, обдуваемым всеми ветрами.

**– Кто из режиссеров был, как говорится, вашей путеводной звездой?**

– Пожалуй, мне такого счастья не выпало. У Валерия Раевского я играла больше, у Николая Пинигина меньше. Но когда в театре не было работы, я ходила на озвучку на телевидение, не бездельничала. Хотя в последние годы у меня были две роли в спектаклях, которые я очень любила: «Земля Эльзы» и «Ювелир». Опять начался плодотворный период. И… быстро закончился.

**– Вы считаете, что труппа уже не вернется в историческое здание?**

– Трудно сказать... За себя я не переживаю. Я очень переживаю за наших молодых, 30–40-летних актеров (для меня они молодые). Я бесконечно их уважаю, очень люблю. Сейчас им надо выстоять. Верю: у них потом всё сложится, всё будет в полном порядке. Подобрались такие замечательные, талантливые ребята!

**– Спасибо режиссеру Пинигину, это его работа.**

– Конечно. Удивительно, какой у нас коллектив! Сейчас вот встречаемся, снимаем в холоде до ночи – очень трудно. Но общение приносит такую радость, такую взаимную любовь!.. Мы испытываем огромное уважение друг к другу. Я думаю, что если бы не случился наш уход, то мы, наверное, никогда не смогли бы так сильно чувствовать, так искренне друг о друге заботиться. Мы все открылись со своих лучших сторон.

**– Как домашние – поддерживают вас?**

– Поддерживают, причем с юмором. Сын по утрам, когда здоровается, всегда добавляет, что я – *«барацьбіт»*. Они с мужем немного надо мной подтрунивают. Но мне нравится мое новое состояние свободы. Конечно, если бы не ковид, мы ездили бы на гастроли, нас ведь ждут, приглашают страны-соседи. Так что планы у нас есть.

**Елена МОЛОЧКО.**

СУСТРЭЧЫ

# Бяскрыўдны чалавек

*Настаўнік з Радуні Воранаўскага раёна **Віталь Куплевіч** пра жыццё ў мястэчку на 320 рублёў у месяц і пра тое, якая рэвалюцыя адбылася ў галовах людзей пасля жнівеньскіх падзей 2020 года.*

### «Лічыўся ненадзейным...»

Віталь Куплевіч у свой час скончыў Брэсцкі ўніверсітэт, атрымаўшы спецыяльнасць «настаўнік геаграфіі і біялогіі», затым вучыўся ў дактарантуры Варшаўскага ўніверсітэта, але не скончыў: на радзіме адзінокі стары бацька патрабаваў догляду. А пазней працягнуць вучобу не атрымалася. Самастойна займаецца даследчыцкай працай, напісаў дзве кнігі: «Палітычная геаграфія Еўропы» і «Цывілізацыя Еўропы». Праўда, праз безграшоўе ніводную не выдаў, але змясціў іх на адным з сайтаў. Валодае польскай і літоўскай мовамі.

Вярнуўшыся на радзіму, сталай працы не займеў. Жылі на бацькаву пенсію, а калі таго не стала, давялося проста хадзіць па дварах і выконваць самую розную работу, каб было на ежу і надзённыя патрэбы.

– *Я, канешне, спрабаваў і ў школу ўладкавацца, і ў горадзе нешта знайсці, але ўсё безвынікова*, – згадвае Куплевіч. – *А потым рэальна паглядзеў, што няма ніякага сэнсу хадзіць і парогі абіваць.*

Сам ён лічыць, што на працу па спецыяльнасці яго не бралі, бо быў «ненадзейны» – не хаваў таго, што з'яўляецца сябрам БНФ, заўсёды размаўляў па-беларуску.

Так, перабіваючыся выпадковымі заробкамі, пражыў амаль чатыры гады. Працаваў на пілараме, у калгасе і чытаў, чытаў, чытаў… А яшчэ па вечарах і выхадных сядзеў над сваімі кнігамі.

У мястэчку яго празвалі «спадаром», бо ён заўсёды звяртаецца да чалавека «спадар» альбо «спадарыня». Мясцючкоўцы, кажа, лічылі яго крыху дзіваком за такі лад жыцця.

### Жыць складана, але цікава

У 2015 годзе ўдалося ўладкавацца ў Радунскі цэнтр турызму, краязнаўства і экалогіі педагогам дадатковай адукацыі. Праўда, гэта таксама была толькі часовая праца, паколькі падмяняў супрацоўніцу, якая знаходзілася ў дэкрэтным адпачынку. Праз тры месяцы яго звольнілі.

– *Тады я сам прапанаваў у мясцовай школе правесці з вучнямі даследчую працу*, – распавядае мой суразмоўца. – *Гэта на той момант аказалася актуальным.*

Праца па дэмаграфіі праз змяненне складу насельніцтва Доцішкаўскага сельсавета вучня Радунскай школы пад кіраўніцтвам Куплевіча заняла ў вобласці другое месца. І спадабалася настаўнікам і дырэктару школы.

На наступны год даследчая праца вучня з Радуні пад кіраўніцтвам Куплевіча была прызнана лепшай у вобласці.

Трэба зазначыць, што спадар Віталь займаўся са школьнікам, не будучы ні настаўнікам школы, ні супрацоўнікам цэнтра турызму, краязнаўства і экалогіі. Ён па-ранейшаму хадзіў па дварах і зарабляў на жыццё чым давядзецца, а яшчэ працягваў чытаць і працаваць над сваімі кнігамі.

– *Без сталага заробку жыць было даволі няпроста, але навуковая праца і даследаванні са школьнікамі напаўнялі жыццё шмат чым цікавым*, – прызнаецца Віталь.

У 2018 годзе Куплевіча зноў узялі ў Радунскі цэнтр турызму, краязнаўства і экалогіі – настаўнікам дадатковай адукацыі на пастаяннай аснове. Адзін з яго абавязкаў – вядзенне школьных гурткоў, у якіх ён працягвае займацца са сваімі выхаванцамі даследчыцкай дзейнасцю.

### «Цяпер жыву нават без электрычнасці ў хаце...»

Зараз Куплевіч мае 10 гадзін у тыдзень працы ў гуртках. Прычым не толькі ў Радуні: даводзіцца дабірацца яшчэ за 7 кіламетраў у Доцішскую школу і за 40 кіламетраў у Беняконі.

Летась яго вучні на абласным конкурсе «Край Гарадзенскі» атрымалі пяць першых месцаў. Тэмы іх работ насілі падкрэслена навуковы характар: «Існуючыя рэкрэацыйныя рэсурсы ў Воранаўскім раёне», «Помнікі гісторыі і культуры, якія ў Воранаўскім раёне не захаваліся», «Абшары поспеху і праблемныя мясціны ў Воранаўскім раёне».

Дабірацца ў школы настаўнік вымушаны аўтаспынам, паколькі не мае грошай нават на білет. Так ён ездзіць і па ўсёй вобласці: у Воранава, Ліду, Гродна.




– *Мой заробак у месяц складае каля 320 рублёў, і 160 з іх пакуль вылічваюць за камп'ютар, які ўзяў у растэрміноўку*, – распавядае Куплевіч. – *Справа ў тым, што без ноўтбука мне ніяк нельга.*

Заканамернае пытанне: як пражыць месяц на 160 рублёў?

– *Жыву вельмі сціпла: у хаце не маю нават электрычнасці, каб не плаціць. Паколькі дом прыватны, то камунальных паслуг няма, ваду бяру ў студні. Камп'ютарам і інтэрнэтам карыстаюся толькі на працы. Тэлефона таксама не маю. Ёсць печка, палю дравамі і гатую на ёй...* – без усякай крыўды кажа Віталь.

У гародчыку садзіць бульбу, цыбулю, моркву, іншую гародніну.

– *За месяц купляю пяць буханак чорнага хлеба, 4–5 палак зельцу, тлушч, каб было на чым бульбу смажыць, макарону, крупы, каву, гарбату і цукар. На цыгарэты звычайна не хапае*, – пералічвае Куплевіч.

Апошнім часам з харчамі стала цяжэй, паколькі даражэе нават хлеб. Куплевіч стаў сур'ёзна задумвацца над тым, каб пераехаць у іншае месца, дзе можна знайсці больш высокааплатную працу.

– *Мой былы аднакурснік нядаўна запрашаў у Брэст*, – распавядае ён. – *Вось раздумваю, бо тут грашовы крызіс перашкаджае жыць і працаваць.*

### Летась адбыўся гуманістычны пералом

Для спадара Віталя, з яго ж слоў, вельмі важная грамадзянская пазіцыя чалавека. У яго мястэчку ў жніўні таксама людзі выходзілі на вуліцу са сцягамі, выказвалі сваё стаўленне да таго, што адбывалася ў краіне. Ён быў сярод іх і кажа, што адчуў незвычайнае натхненне.

– *Ведаеце, у Беларусі мінулым летам адбыўся гуманістычны пералом, якога мы чакалі дзесяцігоддзямі*, – разважае настаўнік.

Ён тлумачыць гэта на прыкладзе сваёй Радуні.

– *Раней, калі я ішоў па вуліцы ў Радуні, то мястачкоўцы насмешліва называлі мяне «спадар», «бэнээфавец» і падобнае*, – гаворыць Куплевіч. – *Цяпер, сустракаючыся, яны з гонарам мне кажуць: «Жыве Беларусь!»*

І гэта робяць тыя самыя мясцовыя людзі, звычайныя работнікі жывёлагадоўчых ферм і трактарысты. Падобнае стаўленне спадар Віталь назірае і ў іншых навакольных вёсках.

– *Гэта, на маю думку, галоўны вынік 2020 года ў нашай найноўшай гісторыі*, – падсумоўвае Куплевіч. – *І слова «спадар» у мястэчку ўжываецца цяпер у сур'ёзным значэнні.*

Людзі, заўважае Віталь, сталі цяплейшымі ў адносінах адзін да аднаго, і гэтага не можа не радаваць.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ГДЕ ЭТО ВИДАНО...

# «Бандит» Романа Абрамовича

*Владелец «Челси» Роман Абрамович – один из самых богатых людей в мире, его состояние Forbes оценивает в 12,6 миллиарда долларов. Известно, что экстравагантный миллиардер не стесняется тратить деньги.*



У Абрамовича есть Boeing 767-33A ER, на котором он летает по всему миру (даже если ему больше не разрешают посещать Лондон). По разным данным, стоимость самолета составляет от 150 до 300 миллионов долларов. Он обладает возможностью разгоняться до 851 км/ч и может летать на высоте до 43.000 футов. Самолет получил прозвище «Бандит» благодаря своей ливрее.

Интерьер частного самолета Романа Абрамовича выполнен из дорогих металлов и ценных пород дерева, включая каштановую и золотую отделку.

Помимо кухни и зала заседаний в самолете есть также роскошные спальни и невероятная просторная гостиная.

Помимо всей этой роскоши «Бандит» оборудован такой же системой оповещения о ракетном нападении, как и самолет президента США. Это означает, что самолет Абрамовича является одним из самых безопасных воздушных судов в мире.

Абрамович владеет еще двумя самолетами Boeing, а также роскошной яхтой.

*(chelseablues.ru)*

*ОТ РЕДАКЦИИ*

Казалось бы, не нужно завидовать богатым людям. Но невольно возникает один вопрос: Роман Абрамович нажил всё это честным трудом или тем, что он, как и другие миллиардеры, в одно время просто-напросто обокрал Россию, оставив ее народ в нищете и беспросветности?

ГУМАРЭСКА

# Нам таксама было не лягчэй…

Ветраны перадналювальнічны дзень абяцаў вось-вось выбухнуць грамавым летнім дажджом. А тут, як назло, пчаліны рой выйшаў. Шумлівыя членістаногія запоўнілі ўсё неба над невялічкім сельскім дворыкам, а потым паступова перамясціліся ў самы куток агарода, абвіўшы здзічэлую калючую ігрушу, да якой у гаспадара ўсё ніяк не даходзілі рукі.

Двое малалетніх сыноў пчалавода-аматара, якія самаадданa любілі толькі мёд, а яго зборшчыц баяліся як агню, у адно імгненне шмыгнулі ў хату, шчыльна зачынілі за сабой дзверы і зачаравана прыліплі да шыбін. Назіраць з укрыцця за сумятлівымі маніпуляцыямі таты для іх было немалым задавальненнем.

Тым часам раздражнёныя парывамі ветру і нечаканым уваркаваннем у натуральны жыццёвы працэс не зусім далікатнага гаспадара касматыя шэльмы праявілі незвычайную агрэсіўнасць. Пакусаны імі гора-пчаляр, які ўскараскаўся на ігрушу па высачэзнай прыстаўнай лесвіцы, мацюкаючыся і адбіваючыся, кубарам паляцеў уніз разам з раёўняй. Пчолы густым чорным клубком хлынулі з каробкі і пачалі без разбору джаліць усё жывое, што хадзіла ці поўзала ў двары і на сельскай вуліцы.

Выявіўшы неверагодны спрыт, уладар міні-пасекі ў адно імгненне апынуўся ў хаце і пачаў лязом нажа ліхаманкава саскрабаць з рук пчаліныя джалы, якія абляпілі далоні, быццам лайкавыя пальчаткі. Старэйшы сынок на дыбачках наблізіўся да бацькі і спагадліва пацікавіўся:

– Табе вельмі балюча, татачка?

– Яшчэ як балюча, сынок! – моршчачыся і саскрабаючы з адкрытых участкаў цела апошнія джалы, прастагнаў бедны бацька.

– Нам таксама было не лягчэй, – уставіў свае пяць капеек малодшанькі нашчадак. – Ты так кувыркаўся на градах, так выкручваўся, махаў рукамі і крычаў, што мы з брацікам ледзь не захлынуліся ад смеху.

**Міхась ЗНАК.**

*Мінск.*

НА ЗАМЕТКУ

# Что будет, если пить воду с уксусом каждый день?

*Это один из эффективных способов похудения.*

Уксусная диета – это метод похудения, при котором необходимо ежедневно пить воду с растворенным в ней яблочным уксусом или лимонным соком. Существует теория, что именно таким способом худели красавицы древности. Иногда такую диету называют «диетой Клеопатры».

В последнее время такой способ набирает всё большую популярность. Вместе с нутрициологом **Анной Гарновой** разбираемся, насколько это эффективно и безопасно.

### Имеет смысл…

Яблочный уксус или лимонный сок имеет смысл употреблять для того, чтобы поднять уровень кислотности в желудке. Это в свою очередь способствует ускоренному расщеплению пищи.

Кроме того, уксус ускоряет пищеварительные процессы и снижает аппетит. Кислая среда уменьшает количество болезнетворных бактерий и нормализует микрофлору. Также в натуральном яблочном уксусе содержится много полезных элементов. Например, магний, кальций, калий, железо и натрий. Есть в нем и органические кислоты – гликолевая, яблочная и, конечно, лимонная и уксусная.

Более того, яблочный уксус считается отличным противовоспалительным средством.



### Эффективна ли уксусная диета?

Некоторые из тех, кто попробовал диету с использованием уксуса, считают, что это довольно действенный способ и с помощью него вполне можно сбросить лишние килограммы. Аккуратное и разумное применение яблочного уксуса действительно позволяет похудеть, считает эксперт: оно способствует уменьшению аппетита и сжиганию жира, а также помогает избавиться от целлюлита.

При этом не нужно подвергать свой организм воздействию стрессовых ситуаций и жестким ограничениям, резко отказываться от различных продуктов, голодать и тем более изнурять себя многочасовыми тренировками.

Чтобы похудеть, уксус разводят в воде в пропорции одна чайная ложка на стакан воды. Пить этот раствор нужно из расчета один стакан на 30 килограммов веса. То есть человеку весом 60 килограммов нужно ежедневно выпивать два стакана.

### Чем это опасно?

Нужно быть предельно осторожным с использованием уксусной и лимонной кислот, особенно при проблемах с желудочно-кишечным трактом. В таком случае стоит воздержаться от уксусной диеты. А если вы все-таки хотите попробовать, нутрициолог рекомендует пить кислую воду через трубочку. Также после употребления следует прополоскать полость рта, поскольку зубная эмаль плохо реагирует на кислотную среду.

Помните, что это не волшебное средство похудения. Не стоит возлагать надежды исключительно на него. Такая диета может стать лишь дополнительной помощью на пути к идеальному телу.

ШАХМАТЫ

## Задача-арыстакрат




Яе даслаў нам **Мікалай Быкаў** з вёскі Рэпічы Баранавіцкага раёна *(гл.дыяграму)*. Чаму “арыстакрат”? Так называюць кампазіцыі, у якіх няма пешак.

**Белыя:** Кре1, Фе3, Лh1, Са1, Се4, Кс1 (6).

**Чорныя:** Крb1, Ла2, Лс2 (3).

**Мат за 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул. Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Іншая версія

Мінскі шахматны складальнік **Міхаіл Кошаль** прапануе сваю варыяцыю двухходовай мініяцюры **Васіля Жуковіча**, што была змешчана ў мінулым выпуску.

**Белыя:** Крf7, Фd8, Сс1, Сh3 (4).

**Чорныя:** Кре5, пd5 (2).

**Мат за 2 хады.**

Не вядуць да мэты спробы 1.Се6? (2.Ф:d5х) Кре4 2.Ф:d5х, але 1…Крd4! і 1.Се3? (2.Фе7х) d4 2.Ф:d4х, але 1…Кре4!. Рашае 1.Фb6! zz 1…d4 2.Фе6х, 1…Кре4 2.Фе3х. М.Кошаль так характарызуе змест задачы: *“Адвольная перамена ў падманных слядах, перамена тэмы і простая перамена ў двух варыянтах рашэння”*.

## У суаўтарстве

У мінулым выпуску мы змясцілі эцюды, якія даслаў **Віктар Жук** з Брэста. Як ён пазней паведаміў, гэтыя кампазіцыі былі складзены сумесна з **Васілём Тупікам** (Пружанскі раён).

## Камбінацыя для пачаткоўцаў

Яе склаў **Сяргей Дарошчанка**.

**Белыя:** Кре7, Лb1, Кd7, Ке5 (4).

**Чорныя:** Крg8, Лb6, Лb8, пп. с2, g7, h7 (6).

**Выйгрыш.**

## Дзяўчына сярод юнакоў

Мы ўжо згадвалі сёлетнія першынствы Беларусі сярод шахматыстаў да 18 гадоў і ўдзел у юнацкім турніры экс-чэмпіёнкі краіны **Аляксандры Тарасенка**. А сёння прапануем адну з пераможных партый юнай брэстаўчанкі ў гэтым спаборніцтве.

***Аляксандра Тарасенка – Мікіта Дыль***

1.d4 g6 2.с4 Сg7 3.Кс3 d6 4.е4 с6 5.Се2 Кd7 6.f4 е5 7.Кf3 Ке7 8.fe de 9.d5 cd 10.cd Фb6 11.d6 Кс6 12.Кd5 Фс5 13.Кс7+ Крf8 14.К:а8 Фb4+ 15.Фd2 Ф:е4 16.0-0 f5 17.Кс7 Кb6 18.Кg5 Фd4+ 19.Лf2 Ф:d2 20.С:d2 Кd4 21.Сс3 Сh6 22.h4 Ка4 23.Лd1, 1:0.

## Нехта губляе, а нехта знаходзіць…

Нягледзячы на пандэмію, сёлета ў галандскім Вейк-ан-Зее адбыўся традыцыйны шахматны фестываль, што бярэ пачатак яшчэ ў 1930-х гадах. Удзельнічаў у турніры і чэмпіён свету **Магнус Карлсен** (Нарвегія), але нечакана для многіх ён не патрапіў у лік прызёраў. Шлях да перамогі “сапсавала” яму наступная партыя, у якой белымі гуляў таленавіты малады расійскі гросмайстар.

***Андрэй Есіпенка – Магнус Карлсен***

1.е4 с5 2.Кf3 d6 3.d4 cd 4.К:d4 Кf6 5.Кс3 а6 6.Се2 е6 7.Се3 Се7 8.g4 b5 9.g5 Кfd7 10.а3 С:g5 11.Фd2 С:е3 12.Ф:е3 Фh4 13.Лg1 g6 14.0-0-0 Фе7 15.f4 Сb7 16.Крb1 Кс6 17.Кс:b5 аb 18.К:с6 С:с6 19.Фс3 0-0 20.Ф:с6 d5 21.еd Лfс8 22.d6 Фd8 23.Ф:b5 Лсb8 24.Фс4 Л:а3 25.Фс7 Фе8 26.Лg5 Ла4 27.Ла5 Лаb4 28.b3 Л4b7 29.Фс3 Фd8 30.Сf3 Лb4 31.Фс7 Фf6 32.Ла8 Л:а8 33.С:а8 Фf5 34.Крb2 Лb5 35.Ф:d7 Лс5 36.Лс1 Ф:f4 37.Фе8+ Крg7 38.d7, 1:0.

## Праверце адказы

Задача **В.Жуковіча**, змешчаная ў “Народнай Волі” 10 сакавіка, рашаецца: **1.Фс1!** Першымі правільна рашылі **Сяргей Галкін**, **Ігар Ананіч**, **Віктар Жук**, **Сяргей Цяльпук**.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

УСМІХНІЦЕСЯ…

★★★

Псіхолагі сцвярджаюць, што для добрага настрою штодня трэба абдымаць восем чалавек. Ці… даць аднаму па мордзе.

★★★

Калі вам за вячэрай раптам стала сумна, то, гаворачы пра нязначныя рэчы, гляньце мужу ў вочы і спытайцеся:

– А хто такая Лена?

★★★

У сямейным жыцці мужчыны шчаслівейшыя за жанчын. І жэняцца яны пазней і паміраюць раней.

★★★

Жыццё маё такое сумнае. Ды ратуе пенсія – яна такая смешная!

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ